

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны

№4 (красавік), 2015

# Мяжа



**Незалежны і самадастатковы гаспадар – пагроза рэжыму**

(старонка 8)

## ЗЬМЕСТ

## У сядзібе Нямцевічаў

Кожны апошні аўторак месяца ў жыхароў Берасьця ёсць магчымасць задарма наведаць музей у сядзібе Нямцевічаў, што знаходзіцца ў Скоках.



31 сакавіка Францішак з Міколкам скарысталі з аказіі і зрабілі падарожжа ў мінулае. На іх шчасьце дзяўчына, якая сустрэла іх на ўваходзе ў музей, калі даведалася, што хлопцы вучацца ў Беларускай клясе, сказала: “У пешыню да нас звяртаюцца на Беларускай мове! Але няма праблем, я з задавальненьнем правяду для вас экскурсію па Беларуску”. Хлопцы пабачылі прыгожыя інтэрьеры канца XIX стагоддзя, партрэты і карціны мінулых стагоддзяў, зброю рыцараў – лятучых гусараў, экспазіцыю прысьвечаную першай сусветнай вайне. Тут Франак з Міколкам даведаліcь, што сядзіба падчас той вайны была разрабаваная расейскімі войскамі і, што сапраўдныя, арыгінальныя экспанаты перахоўваюцца ў Расеі, мяркуюць, што ў музейных сховішшчах Калугі. Але пакуль Расея вяртаць нічога не збіраецца.

Таксама тут у сядзібе Нямцевічаў 15 сьнежня 1917 года было падпісана замірэньне паміж рускімі і намецкімі войскамі…

Потым хлопцы наведалі выставу берасцейскай мастачкі Марii Радько, якая была размешчаная ў адным з пакояў сядзібы. Пасьля чаго даследвалі стары паркавы ансамбль, а таксама прагуляліcь па гістарычнай “грабавай” алеі і дасьледвалі рэканструкцыі акопаў і бліндажоў I-ай Сусьветнай вайны.

Францішак з Міколкам перакананыя – вандроўка была ўдалай! Тым больш, што ў якасьці выключэньня хлопцам далі паслухаць, як гучыць сапраўдны грамафон (Мабыць адчулі сябе падпісантамі замірэньня (заўвага аўтара)).

## “Вучыць беларуса на беларускай мове!” – дэвіз наркама асьветы Ўсевалада Ігнатоўскага.

Сёння 19 красавіка споўнілася 134 гады з дня народзінаў нашага славутага зямляка, які нарадзіўся ў вёсцы Такары Камянецкага раёна, першага прэзідэнта Беларускай Акадэміі навук, дзяржаўнага і грамадскага дзеяча Беларусі, вучонага-гісторыка Ўсевалада Ігнатоўскага.




Вялікі ўклад зрабіў У.М. Ігнатоўскі ў станаўленне гістарычнай навукі ў краіне. Ім напісаны шэраг выдатных навуковых прац па гісторыі Беларусі, сярод якіх “Кароткі нарыс гісторыі Беларусі” (1919г.), “Гісторыя Беларусі ў XIX і на пачатку XX ст.” (1926г.), “1863 год на Беларусі” (1930г.) і інш.

У 1929 годзе ён стаў першым прэзідэнтам Беларускай Акадэміі навук. Менавіта ад гэтага года і да пачатку 1931 ён пачаў падвяргацца жорсткім абвінавачанням у нацыяналізме. У студзені 1931 года У. Ігнатоўскага выключылі з партыі, неаднаразова выклікалі на допыты ў АДПУ. Не маючы магчымасці супрацьстаяць і даказаць ілжывасць надуманых абвінавачанняў, Усевалад Ігнатоўскі застрэліўся 4 лютага 1931 года.

Прэзідэнта Акадэміі навук пахавалі ў поспеху, раніцай, таемна ад сяброў і калегаў. Ягоная магіла цудам захавалася на Вайсковых могілках у Менску.

# Развітанне з Марыяй Тракопаўнай Лукашук у Берасьце



У Берасьці 22 красавіка родныя, блізкія і знаёмыя развіталісь з Марыяй Пракопаўнай Лукашук, маці дырэктара службы Радыё Свабода, вядомай на берасцейшчыне выкладчыцай беларускай мовы, Настаўнікам з вялікай літары. У грэка-каталіческай царкве Святых Пятра і Паўла айцец Ігар правёў паніхіду.

Пахаванне адбылося на радзіме Марыі Пракопаўны ў весцы Ставы Камянецкага раёну, што на поўнач ад Берасьця. Прысутныя сказалі шмат цеплых слоў аб памерлай.

Дзеці і бацькі 4”Б” беларускага класа знайшлі час прыйсці на пахаване, каб развітаца з гэтым цудоўным чалавекам, якая ўсё жыцце прысвяціла адукацыі, выхавала некалькі пакаленняў настаўнікаў. Будучы на пенсіі цікавілась і падтрымлівала беларускі клас, на свята кожнаму вучню рыхтавала адмысловыя падарункі. Марыя Пракопаўна заўсёды гасціна прыймала наведальнікаў у сябе дома.

Да апашняй хвіліны цікавілась грамадскім жыццём ў Берасьці,

верыла ў светлую будучыню Беларусі “пад бел-чырвона-белым сцягам” і натхняла іншых.

Жыцьцё гэтага светлага чалавека з’яўляецца цудоўным прыкладам і ўрокам нам і нашым дзецям.

## У Бярозе грамадзян вучылі адэкватна ўспрымаць рэчаіснасць




У Бярозе адбыўся круглы стол, які арганізаваў кіраўнік берасцейскага аддзялення праваабарончага цэнтра “Вясна” Уладзімір Вялічкін. Тэма круглага стала “Права і распаўсюд праўдзівай інфармацыі”. Уладзімір Вялічкін вучыў супрацьстаяць тэхналогіям, якія выкарыстоўваюць улады для абалваньвання шэраговых грамадзян. Кажа Уладзімір Вялічкін:

- Адзіны выхад – захаваць здаровую галаву і адэкватна ўспрымаць рэчаіснасць. Дзеля гэтага трэба адмовіцца ад кабельнага тэлебачання, адмовіцца ад праграм цэнтральнага тэлебачання і, адназначна, шукаць нейкіх незалежных альтэрнатыўных крыніц інфармацыі.

Удзельнікі круглага стала вельмі ўдзячны праваабаронцам за навучанне супрацьстаяння сучасным інфармацыйным дзяржаўным тэхналогіям, кажа жыхар Бярозы Міхаіл Пракурат:

- У нас па тэлевізары такая інфармацыя, што і побач не стаіць з савецкай. Таму вельмі важна ўмець аналізаваць, умець пераказваць інфармацыю другому. Калі мне скажуць 100 разоў запар, што я дурань, то на 101-шы раз сам скажу, што я дурань.

На сустрэчы прысутнічаў юрыст Уладзімір Малей. Да якога звярнулася шмат прысутных, якія мелі патрэбу ў юрыдычных кансультацыях у пытаннях парушэння правоў чалавека.

http://www.racyja.com/hramadstva/u-byaroze-gramadzyan-vuchyli-adekvatna-u/

## Чарговая сустрэча актывістаў РЭП

30 красавіка ў Берасце ў прафсаюзе РЭП адбыўся трэнінг, прысвечаны праву на атрыманне праўдзівай і поўнай інфармацыі.

Удзельнікі сустрэчы праглядзелі фільм-лекцыю "Як супрацьстаяць інфармацыйным войнам праз ТБ", асаблівая ўвага была звернута на інфармацыйныя тэхналогіі, якія выкарыстоўваюцца прапагандыстамі супраць насельніцтва Беларусі і Расіі, для



маніпуляцыі свядомасці грамадзян. Пасля дыскусіі сябры прафсаюза распрацавалі шэраг праектаў сваёй прафсаюзнай дзейнасці, якія будуць скіраваныя на рашэнне бягучых праблем на іх працоўным месцы.

## Незалежны і самадастатковы гаспадар – пагроза рэжыму

29 красавіка нязломны фермер Аляксандар Бяльчук быў узяты пад варту ў Маларыцкім РАУС дзеля адбывання прысуду па крымінальнай справе. Першыя 5 дзён ён будзе знаходзіцца ў Брэсцкім СІЗА, рэшту ж тэрміна будзе адбываць ў Баранавіцкай турме, ўсяго яму засталося адсядзець 2 месяцы і 10 дзён. Родныя і блізкія правялі яго да дзвярей Маларыцкага РАУС, дзе з ім развіталіся.




Клопат аб буйной фермерская гаспадарцы Аляксандра Бяльчука лёг на плячы ягоных працавітых дзяцей.

На думку фермера, ўся гэтая справа раздмухана, каб знішчыць ягоную гаспадарку. Ён лічыць, што самая вялікая пагроза сёняшней

уладзе гэта свабодны, незалежны, самадастатковы гаспадар, менавіта таму так цяжка сёння быць прадпрымальнікам.

## Кобрыньскі прадпрымальнік змагаецца з райвыканкамам

Уласнік прыватнага гандлёвага вытворчага прадпрыемства "Нарбут" Васіль Андрэюк адстойвае сваю маёмасць.

Памяшканні і тэрыторыю, дзе знаходзіцца яго прыватная фірма, мясцовы выканкам вырашыў прадаць. Не звяртаючы ўвагу на тое, што належыць гэта маёмасць ужо не гораду, а прадпрымальніку. Мясцовыя ўлады лічаць, што Васіль Андрэюк не выканаў ўмовы дамовы і таму не з'яўляецца ўжо ўласнікам. Каб давесці, што маёмасць належыць "гораду", а не прадпрымальніку, супрацоўнікі гарвыканкама звярнуліся ў пракуратуру, якая скіравала справу прадпрыемства "Нарбут" у Брэсцкі эканамічны суд.

29 красавіка Брэсцкі эканамічны суд вырашыў пазбавіць Васіля Андрэюка ўласнасці. Прадпрымальнік у сваю чаргу абураны такім вынікам судовага разбіральніцтва, бо ўклаў не малыя сродкі ў развіццё прадпрыемства і зрабіў за ўласны кошт рамонт у памяшканнях. Бліжэйшым часам Васіль Андрэюк збіраецца абскарджаваць рашэнне суда.

## Дзяржаўная манаполія на Першамай



Брэсцкі гарвыканкам забараніў сацыял-дэмакратам праводзіць першамайскую дэманстрацыю.

Праваабарончы цэнтр " Брэсцкая вясна" звярнуўся за каментаром да намесніка кіраўніка БСДП (Грамада) Валянціна Лазаренкава.

Адмова ў правядзенні шэсця Міжнароднага свята парушае правы грамадзян, а менавіта артыкул Канстытуцыі РБ "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь", а таксама палажэнне

“Міжнароднага пакта “Аб грамадзянскіх і палітычных правах”.

Палітык звяртае ўвагу на тое, што два гады таму не было такіх падстаў, пры якіх улады адмаўлялі ім у святкаванні Свята Працы. Сёлета новае кіраўніцтва горада чамусці знайшло фармальную падставу, каб забараніць масавае мерапрыемства, удзельнікі, нібыта, збіраюцца правесці шэсце ў 50 метрах ад установ адукацыі, аховы здароўя і органаў улады. Але 1 траўня – гэта дзяржаўнае свята, выходны, школы не працуюць.

Сацыял-дэмакраты традыцыйна святкуюць першамай. Па словах Валянціна Лазарэнкі, беларусы не абароненыя ні ў сацыяльным плане, ні ў эканамічным, ні ў палітычным .У краіне скарачаюцца працоўныя месцы,няма гарантыі стабільнага і годнага заробка па вызначынай сістэме. Пры гэтым уводзіцца падатак на “дармаедства”. Гэта нонсанс, бо ва ўсіх цывілізаваных краінах уводзяць падатак на багацце, а ў Беларусі – на галечу. Заробкі не вытрымліваюць крытыкі. Рэальны сярэдні заробак мусіць быць каля 1000 долараў у месяц, бо кошты выраслі ў шмат разоў. 70 % адсоткаў насельніцтва ў Беларусі працуе на дзяржаўных прадпрыемствах, дзяржава ўзяла на сябе гарантыю поўнай занятасці насельніцтва , годнага ўзроўню іх даходаў, а таскама мусіць забяспечваць і сацыяльную абарону.

“Калі ўлада не ўстане забяспечыць нармальнае функцыяніраванне экономікі, тады- трэба сыходзіць у адстаўку”,--адзначыў палітык.

## “З’явіцца дзеля адбыцця пакарання”

Жыхар Маларыцкага раёну, фермер Аляксандр Бяльчук атрымаў позву з’яіцца 28 красавіка з рэчамі ў райадзел міліцыі дзеля адбыцця пакарання, якое вынес яму суд Брэсцкага району – **тры месяцы арышту за непадпарадкаванне супрацоўніку міліцыі і нанясенне яму цялесных пашкоджанняў**.

Міліцыянт Неліновіч абвінаваціў фермера Бяльчука ў тым, что той яго пабіў. Фермер Бяльчук сьцвяржае, што ўсё пачалося з самаробнага трактара, які прыглянуўся начальніку районага аддзялення міліцыі, які даў загад забраць трактар.

Выконываць загад было даручана міліцыянту Неліповічу, які



самавольна ў’ехаў ў двор фермера Бяльчука. Міліцыянт не прадаставіў ніякіх дакументаў на канфіскацыю, а таму уладальнік трактара, Бяльчук, адмовіўся аддаваць сваю ўласнасць. Жарсці распаліліся, калі Аляксандар Бяльчук, бацька 8 дзяцей, назваў маладога міліцыянта на “ты”, маўляў, “сынок, неправільна робіш”! Ад пачутай непавагі, “Мане ніхто яшчэ на ты не называў” паўтарае фермер словы міліцыянта, капітан згубіў кантроль над сабой і ўчапіўся ў вопратку фермера Бяльчука, разарваў кашулю, разбіў таму нос… і справа закруцілась…

У выніку шматмесячных разбіральніцтваў суд прышоў да высновы, што нос разбілі міліцыянту Неліповічу, у дадатак беднага Неліновіча падчас здарэння некалькі разоў нехта пакусаў! Таго кто кусаўся, кажуць, шукаюць, а вось бацька 8 дзетак атрымаў тры месяца арышту за з’біццё міліцыянта.

Фермер Бяльчук абскардзіў рашэнне суду, але безвынікова. Таксама ён выслаў тэлеграму прэзідэнту ў сувязі з тым, што зараз пачалісья вяснавыя работы. Трэба працаваць на зямлі, у фермера 59 гектараў земляных угоддзяў, некалькі дзесяткаў кароў, у цяпліцах растуць агуркі, якія ўжо трэба збіраць і здаваць, ці рэалізоўваць. Бяльчук прасіў прэзідэнта адкласці выкананне прысуду на некаторы час, каб завершыць палявыя работы.

А 10-ай гадзіне 28 красавіка адпаведна позвы фермер Бяльчук з рэчамі прыйшоў ў Маларыцкі РАУС, але ў гэты дзень яго не прынялі, сказалі прыйсці 29 красавіка а той сама гадзіне.

## Мір, труд, май - пад такімі лозунгамі заўсёды праходзілі штогадовыя дэманстрацыі працоўных.

Менавіта дэманстрацыі, бо 1 траўня – гэта ў першую чаргу Дзень міжнароднай салідарнасці працоўных: сымбаль рэвалюцыі, абароны іх правоў. Мы прызвычаіліся да традыцыйных штогадовых шэсцяў па цэнтральных вуліцах горада, з транспарантамі і патрабаваннямі права на працу, на годны за яе заробак, на яе ахову.

А ўлада нашага горада прапанавала сёлета берасцейцам замест звычных дэманстрацый і лозунгаў працу на лецішчах з рыдлёўкамі. Мабыць міжнародны дзень салідарнасці працоўных, якія змагаюцца за свае правы, згубіў свой сэнс.



## Брэст: суд адхіліў скаргу незалежнай журналісткі

Журналістка Іна Хоміч спрабавала аспрэчыць пастанову суда Маскоўскага раёна г.Брэста, паводле якой яна была аштрафавана на 30 базавых велічынь (5,4 мільёна рублёў) паводле артыкула 22.9 Кодекса Рб аб адміністрацыйных правапарушэннях - “за распаўсюд і выраб прадукцыі СМІ”.

Акрамя таго, у сваё скарзе Іна Хоміч выказвала пажаданне, каб



абласная судовая інстанцыя звярнулася праз Вярхоўны суд ў Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь, каб той даў ацэнку артыкулам Закона аб СМІ, якія рэгламентуюць умовы працы журналістаў замежных СМІ, а таксама самога паняцця "акрэдытацыя". Незалежная журналістка нагадала, што Канстытуцыя РБ гарантуе грамадзянам краіны права на атрыманне, захоўванне і распаўсюд поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі. Акрамя таго, Беларусь падпісала і ратыфікавала Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, у адпаведнасці з якім "кожны чалавек мае права на свабоднае выказванне свайго меркавання; гэтае права ўключае свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць усялякага рода інфармацыю і ідэі, незалежна ад дзяржаўных межаў, вусна, пісьмова ці праз друк ці мастацкія формы выказвання, ці іншымі спосабамі на свой выбар".

Касацыйную скаргу разглядаў суддзя Брэсцкага абласнога суда Міхаіл Мохар. Паводле яго высноваў, скарга Іны Хоміч не можа быць задаволеная, паколькі суд першай інстанцыі "усебакова, поўна і аб'ектыўна" вывучыў матэрыялы справы ў дачыненні да незалежнай журналісткі, і яе віна ў "незаконным вырабе прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі" даказана.

Пры гэтым у судовай пастанове ўтрымліваецца спасылка на паведамленні з УКГБ па Брэсцкай вобласці, паводле якога Іна Хоміч нібыта "здзейсніла інтэрв'ю", падрыхтавала матэрыял і пасля размясціла яго на сайце замежнага сродка інфармацыі, а таксама з МЗС Беларусі (гэта ўстанова падцвердзіла, што Хоміч не мае акрэдытацыі ў якасці журналіста замежнага СМІ).

Што тычыцца спасылак незалежнай журналісткі на Канстытуцыю РБ і міжнародныя акты, дык гэта, паводле Брэсцкага абласнога суда, "не дае падставаў ставіць пад сумнеў правільнасць высноваў суда аб вінаватасці Хоміч І.А. у здзяйсненні адміністрацыйнага

правапарушэння”.

Такім чынам, Брэсцкі абласны суд пакінуў без зменаў пастанову суда Маскоўскага раёна г.Брэста і не задаволіў скаргу незалежнай журналісткі.

http://spring96.org/be/news/77006

## Як не стаць “зомбі”

28 красавіка ў Бярозе адбыўся трэнінг па тэме: “Права на атрыманне поўнай і праўдзівай інфармацыі”. Гэтым разам асаблівую ўвагу трэнеры надалі тэхналогіям, якія выкарыстоўваюць прапагандысты супраць насельніцтва Беларусі і Расіі дзеля маніпулацыі свядомасцю грамадзян.



Асаблівую пагрозу беларускаму грамадству на сёяшні дзень уяўляе “афіцыйнае” тэлебачанне, якое дазваляе дасягаць дзеючай уладзе пастаўленых мэтаў у даволі караткі перыяд часу.

Ў выніку прагляду такога тэлебачання шмат тэлегледачоў пачынае неадэкватна ўспрымаць рэчаіснасць і паводзіць сябе ў грамадстве. Каб не стаць “зомбі” треба:

**па-першае – не глядзець тэлевізар.**

**Па другае – больш чытаць кніжак.**

**Па-трэцяе – намагацца карыстацца як мага большымі крыніцамі інфармацыі (інфармацыйных агенстваў іншых краін).**

Пры выкананні гэтых умоваў можна больш-іменьш аб’ектыўна арыентавацца ў рэчаіснасці.

Прысутныя на трэнінгу паспрабавалі скласці сцэнары радыё і тэлеперадач, напісаць адмысловыя інфармацыя матэрыялы адпаведна прапагандыстычных установак, дзеля таго, каб зразумець, як ствараецца віртуальная рэчаіснасць у рамках інфармацыйных тэхналогій.

## Праслед незалежных журналістаў




27 красавіка ў судзе Ленінскага раёну г. Брэста разглядалася чарговая расправа над незалежным журналістам, супрацоўніцай Радыё Рацыя, Тамарай Шчапёткінай. Гэтым разам Тамара Шчёпёткіна атрымала штраф у 40 базавых велічынь за тое, што 8 студзеня 2015 года нібыта брала інтэрвью ў капітана міліцыі Неліповіча.

Па сведчаннях відавочцаў у той дзень Тамара Шчапёткіна не падыходзіла да міліцыянта, сам Неліповіч хутка пакінуў будынак, амаль уцёк, і ў прысутных не было фізічнай магчымасці перакінуцца з ім парай словаў. Інтэрвью, пра якое ішла размова ў судзе, Неліповіч даў яшчэ ў мінулым годзе, 4 лістапада, іАле 8 студзеня ў этэры прагучаў паўтор ягонага мінулагодняга інтэрвью. Нягледзячы на доказы і сведчанні сведкаў міліцыянт стаяў на сваім – 8-га! Суд стаў

на бок міліцыянта.

Тамара Шчапёткіна прынцыпова не пагаджаецца з рашэннем суду і будзе змагацца за справядлівасць і далей.

Апошнім часам на берасьцейшчыне ідзе пераслед незалежных журналістаў. У бягучым годзе шэраг берасцейскіх журналістаў-фрылансераў атрымалі буйныя штрафы за супрацоўніцтва з незалежнымі СМІ. Акрамя Шчапёткінай неаднаразова пакараны штрафамі за сваю журналісткую дзейнасць А.Ляўчук, А.Літвінчук, І.Хоміч.

Грамадскія актывісты бачуць ў гэтым сувязь з чарговымі выбарамі Прэзідэнта, якія маюць адбыца ўвосень гэтага году.

## У Кобрыні гаварылі аб «праве на атрыманьне і распаўсюд праўдзівай і аб'ектыўнай інфармацыі»

16 красавіка ў Кобрыне прайшоў семінар па тэме: «Права на атрыманне і распаўсюд праўдзівай і аб'ектыўнай інфармацыі». Прысутныя даведаліся аб дейнасці сродкаў масавай інфармацыі на Беларусі і за мяжой, аб выкарыстоўвані СМІ дзеля захавання ўлады ражымам і аб маніпуляцыях праз СМІ свядомасцю грамадзян.

Па заканчэньні адбылася дыскусія, у якой прысутныя абмяркавалі, між іншым, сытуацыю аб новапрынятым законе “Аб туніядстве”, які выклікаў неадназначную рэакцыю ў грамадстве. Сярод думак была і такая, што закон “аб туніядстве” гэта наумысны крок уладаў на передадні выбараў прэзідэнта – бліжэй да выбараў «добры» прэзідент пакарае «небаракаў» чыноўнікаў, што здзекваюцца з простых беларусаў і адменіць несправядлівы закон. Удзячны ж электарат пабяжыць галасаваць за сайго «збаўцу і абаронцу» і «абяре» яго на чарговы тэрмін.»

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»